Гродна
№11(517),
2 чэрвеня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ВОСЬ СЭРЦА, ЯКОЕ ТАК МОЦНА ПАЛЮБІЛА ЛЮДЗЕЙ

**Адной з фундаментальных ісцін хрысціянскай веры з'яўляецца ўцелаўленне Божага Сына. "А Слова сталася целам і пасялілася між намі" (Ян 1, 14). Пан Езус вельмі канкрэтна, адчувальна ўвайшоў у гісторыю чалавецтва, каб збавіць яго. "Нельга сумнявацца, што Хрыстос меў сапраўднае цела з усімі яго ўласцівасцямі, сярод якіх найбольшай з'яўляецца любоў. Нельга сумнявацца, што меў таксама фізічнае сэрца, падобнае на наша, бо без гэтай найцудоўнейшай часткі цела людское жыццё не магло б існаваць, што датычыць і пачуццяў. [...] Божае слова прыняло чалавечую натуру – сапраўдную, дасканала чалавечую – і сфарміравала сабе цялеснае сэрца, якое падобна нашаму можа цярпець, быць прабытым, параненым" (Пій XII, Haurietis aquas).**

• працяг на с. 3

"Там, дзе ёсць Маці, не пануе неспакой, не перамагае страх". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 17, 20–26**

Езус узняў вочы свае да неба і маліўся такімі словамі: "Ойча святы, не толькі за іх прашу Я, але і за тых, хто паверыць у Мяне паводле слова іхняга, каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як і Мы адно. Я ў іх, а Ты ўва Мне. Каб былі з'яднаныя ў адно, каб свет пазнаў, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне. Ойча, хачу, каб тыя, каго Ты даў Мне, былі са Мною там, дзе Я, каб бачылі славу Маю, якую Ты даў Мне, бо палюбіў Мяне перад заснаваннем свету. Ойча справядлівы, свет Цябе не пазнаў, а Я пазнаў Цябе, і гэтыя пазналі, што Ты паслаў Мяне. Я абвясціў ім Тваё імя, і абвяшчаць буду, каб любоў, якою Ты палюбіў Мяне, у іх была, і Я ў іх".

### ЗАХАВАЦЬ ЕДНАСЦЬ ДУХА

Дасканалая еднасць Айца і Сына з'яўляецца жывым і вечным узорам адзінства хрысціян. Мы з'яднаныя з Езусам праз веру і любоў, праз сакраманты і ўсё жыццё, а праз Яго – з усемагутным Богам. Св. апостал Павел гаворыць, што мы "зрошчаныя" з Хрыстом звышнатуральным і неспасціжным чынам. Як хрысціяне "паходзім" з Крыві Збаўцы. Ён трымае нас у абдымках. Суіснуем з Ім, з Яго і ў Ім.

Аднак еднасць хрысціянства, якая вырастае са з'яднання з Езусам, не можа заставацца толькі набожным жаданнем асобна ўзятага чалавека, а павінна фарміраваць усё яго жыццё. Павінна рэалізавацца ў сэрцы і паводзінах, у любові, разуменні, цярплівасці, самаахвярнасці, дапамозе і прабачэнні.

Свет стане Божым светам толькі тады, калі наступнікі Хрыста будуць адным цэлым. Такім чынам, малітва аб еднасці і праца над гэтым з'яўляецца першым абавязкам хрысціяніна. Таму просім Пана, каб мы ўсе захоўвалі еднасць духа дзякуючы саюзу, якім з'яўляецца спакой (параўн. Эф 4, 3).

**Ці клапачуся я аб адзінстве і спакоі ў сваім акружэнні?**

**Якія ініцыятывы прымаю, каб усе былі адно?**

**УРАЧЫСТАСЦЬ СПАСЛАННЯ СВЯТОГА ДУХА**

**Ян 7, 37–39**

У апошні вялікі дзень свята Езус стаў і, заклікаючы, сказаў: "Хто прагне, няхай прыйдзе да Мяне і п'е. Хто верыць ў Мяне, у таго, як сказана ў Пісанні, з улоння пацякуць рэкі вады жывой". Гэта сказаў Ён пра Духа, якога павінны былі прыняць тыя, хто паверыў у Яго: бо яшчэ не было Духа Святога, таму што Езус яшчэ не ўславіўся.

### ЗАПАЛІЦЬ АГОНЬ ЛЮБОВІ

Хрыстос спаслаў Святога Духа, каб Божая любоў была разліта ў чалавечых сэрцах. Суцяшыцель быў пасланы да кожнага з нас, хоць, можа, не заўсёды адчуваем, што таксама атрымалі гэты дар. Ён удзяляе шчодрыя дары, дзякуючы якім у вызнанні той жа веры яднае людзей і народы, рассеяныя па ўсім свеце. Хто адкрываецца на ўздзеянне ласкі, становіцца па старане Бога, для якога няма нічога немагчымага.

Святы Дух не прагне праследавання, не абвяшчае тэрор. Дзейнічае там, дзе няма гвалту. Перамагае праз праўду любові. Ён прагне, каб людзі пазбавіліся страхаў, каб сталелі ў чалавечнасці, якая мае моц аднавіць зямлю. Таму просім Суцяшыцеля, каб пасяліўся ў сэрцах вернікаў і запаліў у іх агонь сваёй любові!

**Якую ролю ў маім жыцці адыгрывае Святы Дух?**

**Які з пладоў Святога Духа я найбольш хацеў бы ў сабе развіваць?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адкрытае Сэрца Бога

*Мы з'яўляемся сведкамі таго, як жыццё нястомна паскараецца. Ход аднойчы разагнанай машыны ніхто ўжо не адважыцца стрымаць... Чалавек рухаецца ў тэмпе, які небяспечна нарастае. Яго сэрца пульсуе ў рытме паскоранай штодзённасці, старающыся паспець за тым, што лічыць важным.*

Сэрца Езуса такмама б'ецца інтэнсіўна. Жыва рэагуе на ўсе цені і бляскі зямнога побыту, паскараецца перад абліччам зла і подласці, балюча ўзмацняецца ў час здрады, калі пакідаюць самыя блізкія, і разам з тым радасна гучыць у хвіліны сустрэчы з любімымі. Яно цярплівае, як сэрца маці, якая ўглядаецца ў свае дзіця, поўнае пяшчоты і невычэрпных дароў.

Гэтае Сэрца не зайздросціць, а цешыцца навет самай маленькай іскрынцы дабра, што заблішчала ў жыцці чалавека. Не выхваляецца, не імкнецца да здабыцця лаўраў. Ніколі не ганарыцца. Не шукае свайго, усё аддаючы любімаму стварэнню. Не гневаецца і не памятае зла, нягледзячы на тое, што шмат разоў было падмануты. Яго песняй з'яўляецца праўда, а кожная несправядлівасць наносіць яму рану. Гэтае Сэрца ўсё церпіць. Усё зносіць. Яно настолькі моцнае, што навет прабітае прадаўжае біцца, паколькі, як піша св. Павел, любоў ніколі не мінае (параўн. 1 Кар 13, 8).

Сэрца Хрыста заўсёды пульсуе ад любові да людзей у бясконцым прыпеве: "Гэта Цела Маё, якое за вас выдана... Гэта Кроў Мая, за вас пралітая..." (параўн. 1 Кар 11, 23–26). Дае чарговы шанс, калі толькі чалавек папросіць аб ім. Аднак, заўсёды гатовае задаволіць усе людскія патрэбы, яно запрашае да канкрэтнага адказу. Вучыць, што трэба адкрываць свае сэрца на іншых і дзяліцца любоўю. Тады ўдасца інакш паглядзець на навакольны свет, дасведчыць Божы супакой і хвіліну перадышкі. Ярмо стане лёгкім, хоць і застанецца ярмом. Прабачэнне суцішыць боль, хоць рана ўсё яшчэ будзе непакоіць. Знікне прывычка параўноўваць, дзяліць людзей на багатых ды бедных, знявечаных ды паўнавартасных... Тэмп жыцця запаволіцца. Штодзённасць паступова стане глыбейшай, больш арганізаванай, упарадкаванай. Дасведчым дотык Езуса, які пераменіць нашыя сэрцы.

**Дарагія Чытачы!**

Надыходзіць месяц, прысвечаны Хрыстоваму Сэрцу. Маем асаблівую нагоду, каб з любоўю і даверам прыпасці да Езуса, які думае пра нас, усё ведае і бязмежна любіць. Няхай чэрвеньскае набажэнства ўкажа на годную паставу адносна Усемагутнага і бліжняга. Паглыбляймася ў словы Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, у 33-ох зваротах якой заключана бясконцая дабрыня Бога. Чэрпайма як мага больш з гэтай Крыніцы міласэрнасці, каб у выніку стаць каталізатарамі дабра і любові для іншых.

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах кансэкраванага жыцця

У цяжкі перыяд пасля 1991 года, калі на тэрыторыі нядаўна ўзніклай Гродзенскай дыяцэзіі не хапала прэзбітэраў, мужчынскія і жаночыя манаскія супольнасці ўзялі на сябе душпастырскую і катэхетычную працу, што ў значнай ступені паспрыяла адраджэнню Касцёла на нашых землях. Паслуга многіх кангрэгацый надалей узбагачае парафіяльныя супольнасці Гродзеншчыны. Згодна з харызмай сваіх заснавальнікаў яны працягваюць місію папярэднікаў.

Сінадальная камісія па справах кансэкраванага жыцця запрашае глыбей засяродзіцца над манаствам, узгадваючы сінтэз навучання Касцёла на тэму кансэкраванага жыцця, прыглядаючыся да розных яго форм. Камісія выражае радасць у сувязі з росквітам на Гродзеншчыне старажытнага стану прысвечаных Богу паннаў і развіцця стану кансэкраваных удоў. Прадстаўніцы гэтых супольнасцей з'яднаны асаблівай сувяззю з лакальным Касцёлам, якому аддана служаць, аднак застаюцца ў свеце.

Таксама члены Камісіі разважаюць над пытаннем, што манаскія асобы могуць прапанаваць Гродзенскаму Касцёлу сёння, указваюць на сучасныя выклікі адносна кансэкраванага жыцця, прапануючы новыя рашэнні ў справах, якія патрабуюць змен. Згодна з дазволам Апостальскай Сталіцы, для духоўнай карысці Касцёла на Гродзеншчыне рэкамендавана заснаванне манастыроў сузіральнага характару. Трываючы ў самотнасці і маўчанні, слухаючы Божае слова, спраўуючы літургію, практыкуючы асабісты аскетызм, малітву, самакатаванне і братэрскую камунію, пакліканыя ў іх маглі б даваць мясцоваму Касцёлу асаблівае сведчанне любові да Пана і чалавека, а таксама выпрошваць ласкі, неабходныя для душпастырскай дзейнасці.

Дар кансэкраванага жыцця ва ўсёй разнастайнасці харызмаў і інстытутаў з'яўляецца вялікім дабром і багаццем для Паўсюднага Касцёла. Паслуга манаскіх асоб прысутная на розных прасторах. Падчас Дыяцэзіяльнага сіноду вернікі асаблівым чынам заклікаюцца да аддананай малітвы, каб паглыбіць разуменне харызматычнай натуры манаскага жыцця, а не толькі яго апостальскага вымярэння.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ВОСЬ СЭРЦА, ЯКОЕ ТАК МОЦНА ПАЛЮБІЛА ЛЮДЗЕЙ

● працяг са с. 1

## ЧАМУ МЕНАВІТА СЭРЦА?

У Святым Пісанні слова "сэрца" разумеецца як цэлы чалавек, азначае яго ўнутранае жыццё, самае асабістае. Не адшукаем там шмат узгадак пра Сэрца Езуса, але маем яго сведкаў. Перш за ўсё, гэта Панна Марыя, якая ў сваім улонні зачала і выдала на свет Збаўцу. Яна першая пачула біццё Божага Сэрца, Яму ў любові прысвяціла ўсё жыццё, служачы ажно да крыжа. Сведкам з'яўляецца таксама св. апостал Ян, які падчас апошняй вячэры спачываў на грудзях Езуса (параўн. Ян 13, 23) і чуў удары Сэрца Бога. Калі пасля смерці адзін з жаўнераў прабіў Хрысту бок, умілаваны вучань убачыў, як выцяклі з яго кроў і вада (параўн. Ян 19, 34).

Сэрца – гэта сімвал любові, якая з'яўляецца сутнасцю Святой Тройцы. Бог стварыў усё з любові і з любові таксама ўсё збавіў. "Бог ёсць любоў" (1 Ян 4, 8). І таму яна найпаўней акрэслівае Божага Сына. "Калі адаруем Сэрца Езуса, то ў ім і праз яго адаруем неверагодную любоў Божага Слова" (Пій XII, Haurietis aquas). Пашана, аказваемая Сэрцу Пана, з'яўляецца сузіраннем Яго любові, якое праяўляецца ў перайманні Хрыста: "... навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам" (Мц 11, 29).

Любоўю пульсавала Сэрца Збаўцы ў Назарэце, калі ў доме Марыі і Юзафа "Езус [...] узрастаў у мудрасці, у гадах і ў ласцы ў Бога і ў людзей" (Лк 2, 52). З Сэрцам, перапоўненым любоўю, Пан абвяшчаў Евангелле, аздараўляў хворых, вызваляў з моцы злога апантаных, уваскрашаў памерлых, цярпеў голад і смагу, карміў галодныя натоўпы людзей у пустыні. Мацнейшай любоўю і трывогай білася Яго Сэрца ў Аліўным садзе, прадчуваючы страшныя мукі, прымаючы здрадніцкі пацалунак Іуды... Калі Збаўца вісеў на крыжы, Яго Сэрца акрамя такіх пачуццяў, як блажэнны спакой, смутак, жах, міласэрнасць і літасць было напоўнена палымянай любоўю.

## УСТАНАЎЛЕННЕ КУЛЬТУ

У старажытныя часы асаблівым чынам ушаноўваліся Раны і Мука Хрыста. Культ Найсвяцейшага Сэрца Езуса, які па сутнасці з'яўляецца культам Уцелаўлёнага Божага слова, культам Божай і людской любові Езуса (параўн. Пій XII, Haurietis aquas), выводзіцца з часоў сярэднявечча. Першапачаткова ён меў прыватны характар. Яго развіццю паспрыялі, між іншым, св. Банавентура, св. Альберт Вялікі, св. Гертруда, св. Кацярына Сіенская, св. Пётр Канізій, св. Францішак Сальскі, а таксама бл. Генрых Сусо. У XVII стагоддзі культ Сэрца Езуса стаў уласнасцю ўсяго Касцёла, паколькі "дасканала згаджаўся з сутнасцю хрысціянскай рэлігіі, рэлігіі любові" (Пій XII, Haurietis aquas). Намаганні для гэтага прыклалі св. Жан Эд і св. Маргарыта Марыя Алакок пры дапамозе свайго духоўнага кіраўніка св. Клода дэ ла Каламб'ера. Св. Жан дзейнічаў па ўласнай ініцыятыве, а св. Маргарыта – пад уплывам наказаў, атрыманых ад самога Хрыста.

27 снежня 1673 года Пан Езус аб'явіўся манахіні ў першы раз. Паказваючы ёй сваё Сэрца, сказаў: "Маё Боскае Сэрца так палымнее любоўю да людзей, што не можа доўга стрымліваць гэтае гарачае полымя замкнутым у маіх грудзях. Прагне выліць яго з тваёй дапамогай і прагне ўзбагаціць людзей сваімі Божымі скарбамі". Будучая святая перажыла яшчэ 3 аб'яўленні, падчас якіх Пан Езус сказаў: "Вось Сэрца, якое так моцна палюбіла людзей, а замест гэтага атрымлівае пагарду і забыццё". Збаўца хацеў, каб у духу ўзнагароджання кожную ноч перад першай пятніцай месяца адбывалася гадзінная адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту (т. зв. святая гадзіна); каб св. Камунія ў першыя пятніцы месяца была ахвяравана як узнагароджанне Божага Сэрца за людскія грахі і халоднасць; каб першая пятніца пасля актавы Божага Цела была асобным святам, прысвечаным Яго Сэрцу, падчас якога праз Камунію і іншыя набожныя практыкі можна пакрыць Яму спазнаныя знявагі; каб ушаноўваліся выявы Яго Сэрца. Хрыстос даў вялікія абяцанні тым, хто з любоўю будзе выконваць гэтыя наказы.






Пасля ўважлівага вывучэння справы Апостальская Сталіца, стварэючы культ Сэрца Езуса згодна з правіламі хрысціянскай навукі і адказваючы на шматлікія просьбы біскупаў і вернікаў, выканала патрабаванні Збаўцы. У 1856 годзе папа Пій IX устанавіў асобнае свята, а 11 чэрвеня 1899 года папа Леў XIII здзейсніў прысвячэнне людскога роду Найсвяцейшаму Сэрцу Пана Езуса, называючы гэта "вялікай падзеяй" свайго пантыфікату. У выдадзенай з гэтай нагоды энцыкліцы "Annum Sacrum" Святы Айцец, заахвочваючы ўсіх, хто любіць Хрыстовае Сэрца, ахвотна прысвячаць сябе яму, напісаў: "Найсвяцейшае Сэрца Езуса, са змешчаным зверху крыжом, якое зззяе сярод полымя цудоўным бляскам – яму належыць прадставіць усе надзеі. У ім трэба шукаць і ад яго чакаць збаўлення ўсіх людзей".

Асабліва папулярным культ Сэрца Езуса стаў у першай палове XX стагоддзя, у перыяд цяжкіх выпрабаванняў, якія закранулі чалавецтва. Сёння ён таксама актуальны, паколькі і сучасны чалавек прагне любові, якую можа наталіць толькі ў Сэрцы Езуса. Толькі ў ім знаходзім крыніцу любові, спакою, дапамогі і абароны ад зла, якое сёння больш чым калі закранае асобных людзей, сем'і і супольнасці.

На заканчэнне прывядзём словы папы Яна Паўла II, прамоўленыя з нагоды 100-годдзя прысвячэння чалавецтва Найсвяцейшаму Сэрцу Пана Езуса: ***"Заклікаю ўсіх вернікаў, каб надалей рупліва захоўвалі культ Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, прыстасоўваючы яго да нашых часоў, каб дзякуючы гэтаму маглі нястомна чэрпаць з яго бяздонных багаццяў і ўмелі з радасцю на іх адказваць, любячы Бога і братоў, знаходзячы спакой, уваходзячы на шлях паяднання і ўмацоўваючы сваю надзею, што калісьці будуць жыць паўнатой Бога ў супольнасці з усімі святымі".***

*Кс. Аляксандр Сямінскі*

# СЛОВА для жыцця

***Папа Францішак***



*Езус палюбіў нас першым. Палюбіў, нягледзячы на нашу тленнасць, нашы чалавечыя абмежаванні і слабасці. Гэта Ён зрабіў людзей годнымі сваёй любові, якая не ведае межаў. Даючы новую запаведзь, заклікае ўсіх любіць адзін аднаго не толькі і не столькі сваёй любоўю, але Яго любоўю, якую Святы Дух вылівае ў нашы сэрцы, калі просім Яго з верай. Такім чынам – і выключна такім чынам – можам любіць адзін аднаго не толькі так, як любім сябе, але як Ён палюбіў нас, а гэта значна больш... Гэтая любоў робіць нас новымі людзьмі, братамі і сёстрамі ў Пану, робіць нас новым Божым народам, Касцёлам, дзе ўсе пакліканы любіць Хрыста і ў Ім любіць адзін аднаго.*

*Любоў, якая аб'яўляе сябе ў Хрыстовым крыжы і якой Ён заклікае жыць, – гэта адзіная сіла, што ператварае каменнае сэрца чалавека ў сэрца з плоці; што робіць здольным любіць ворагаў і прабачаць тых, хто пакрыўдзіў; што прымушае ўспрымаць іншага ў якасці цяперашняга або будучага члена супольнасці сяброў Езуса; што падахвочвае да дыялогу і дапамагае лепш слухаць і ведаць адзін аднаго. Любоў адкрывае нас для іншых, становячыся асновай чалавечых адносін. Дазваляе пераадольваць бар'еры ўласных слабасцей і забабонаў, стварае масты, вучыць новым шляхам, выклікае братэрскі дынамізм.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Уладарка Неба" ў Ватыкане, 19.05.2019*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Я перакананы, што кожны з нас без выключэння неаднойчы ў жыцці адчуў, наколькі бясконца вялікая і глыбокая мацярынская любоў Марыі, наколькі чулая і клапатлівая Яе апека, наколькі моцнае і надзейнае Яе заступніцтва за нас перад Богам. Двайны юбілей тракельскага санктуарыя, які прыпадае ў гэтым годзе, – добрая нагода, каб падзякаваць Пану за дар Марыі як Маці ўсіх людзей, за дарагі нашым сэрцам санктуарый у Тракелях, які з'яўляецца красамоўным сведчаннем прысутнасці Беззаганнай у гісторыі нашых зямель і ў жыцці нашых папярэднікаў, а ў апошнія дзесяцігоддзі ён стаў таксама сімвалам апекі Маці Божай над маладым Гродзенскім Касцёлам. Сёлетні юбілей – гэта таксама нагода, каб мы яшчэ старанней, з яшчэ большай верай і стойкасцю ўзносілі просьбы і мальбы да Марыі, спадзеючыся на Яе мацярынскае заступніцтва.*

*Ужо цяпер я запрашаю Вас усіх, дарагія Дыяцэзіяне, на юбілейныя ўрачыстасці, якія адбудуцца ў Тракелях 12–13 ліпеня. На духоўную падрыхтоўку, а таксама на штодзённае паглыбленне жывой і шчырай марыйнай набожнасці кожнага з Вас сардэчна благаслаўляю.*

*Фрагмент Пастырскага ліста з нагоды надыходзячых юбілейных урачыстасцей у Тракелях*



*◆ Папа Францішак дазволіў арганізоўваць афіцыйныя паломніцтвы ў Меджугор’е (Боснія і Герцагавіна). Раней яны былі пад забаронай Касцёла. Распараджэнне Святога Айца з’яўляецца праявай асаблівай пастырскай увагі да той рэчаіснасці, што ў Меджугор’е прыбываюць натоўпы людзей і атрымліваюць там шчодрыя Божыя ласкі. Аднак гэты жэст не павінен інтэрпрэтавацца вернікамі як пацвярджэнне аб’яўленняў Багародзіцы ў Меджугор’і: іх верагоднасць яшчэ патрабуе дадатковага вывучэння з боку Касцёла. “Варта пазбягаць таго, каб паломніцтвы выклікалі двухсэнсоўнасць з дактрынальнага пункту гледжання”, – гаворыцца ў паведамленні прэс-цэнтра Апостальскай Сталіцы.*

*◆ Кангрэгацыя па справах кананізацыі апублікавала 5 дэкрэтаў, якія тычацца прызнання гераічнага вымярэння цнотаў кандыдатаў на вынясенне да хвалы алтара. Наступным этапам у працэсах прызнання іх святасці павінен быць цуд. У гэтым спісе біскуп Джавані Батыста Пінардзі (1880–1962) і святар Карла Салерыо (1827–1870) з Італіі, манах-святар Дамінга Ласара Кастра (1877–1935) з Іспаніі, айцец капуцын Сальвадор з Каскі (1911–1972) з Бразіліі і манахіня Марыя Еўфразія Яконіс (1867-1916), якая нарадзілася ў Італіі, а адышла ў вечнасць у Аргенціне.*

*◆ Вызначана тэма для наступнай Сусветнай сустрэчы сем’яў, якая пройдзе ў 2021 годзе ў Рыме (Італія). Яна гучыць як “Сямейнае каханне: пакліканне і шлях святасці”. У тлумачэнні да тэмы падкрэсліваецца, што яна мае на мэце нагадваць пра глыбокі і збаўчы сэнс адносін у сям’і, якія павінны ўмацоўваць любоў паміж людзьмі. Арганізатары прагнуць закцэнтаваць увагу на тым, што хрысціянскае сямейнае жыццё з’яўляецца пакліканнем да святасці і шляхам да яе.*

*◆ Інжынер з Польшчы, доктар фізікі Францішак Ракаўскі прыдумаў веласіпедны ружанец. Прылада пад назвай b-Rose уяўляе сабой просты механізм, які нагадвае веласіпедны званок. Веласіпедыст круціць вялікім пальцам верхнюю, рухомую частку дзесятка, адлічваючы пачарговыя малітвы. Бачыць краем вока ці адчувае пальцам крыжык, які азначае скончаны дзесятак. Само па сабе перамяшчэнне “зерня” адцягвае ўвагу не больш, чым радыё ў аўтамабілі. Першыя карыстальнікі веласіпеднага ружанца – удзельнікі велапаломніцтваў.*

*◆ Адзін з самых тытулаваных абаронцаў у гісторыі іспанскага футбола, капітан нацыянальнай зборнай і футбольнага клуба “Рэал-Мадрыд” Серхіа Рамас прыняў сакрамант хросту ў мадрыдскім касцёле Маці Божай Моралеха. На цырымоніі прысутнічала нешматлікая група блізкіх людзей і сяброў спартсмена. Між іншым, ён паведаміў, што намераны ўзяць касцёльны шлюб са сваёй спадарожніцай жыцця, тэлежурналісткай Пілар Рубіа, з якой яны ўжо маюць 3-ох дзяцей. Урачыстасць запланавана на сярэдзіну чэрвеня.*

*credo.pro; vaticannews.va; niedziela.pl*

# Зялёныя святкі: павеў Святога Духа ў кожны дом



Спасланне Святога Духа можна лічыць пачаткам, нараджэннем Касцёла. Яно дапаўняе аб’яўленне Бога людзям. У Старым Запавеце з’яўляецца Бог Айцец, пазней Ён пасылае ў свет Сына, які ў ахвяру за чалавецтва памірае на крыжы, але на 3-ці дзень паўстае з памерлых. Пасля чаго Святы Дух сыходзіць на сабраных у вячэрніку апосталаў, Марыю і жанчын, адорваючы іх шматлікімі дарамі. Іншымі словамі, Спасланне Святога Духа з’яўляецца ўслаўленнем 3-яй Асобы Божай, пасланай у свет, каб тое, што Айцец стварыў, а Сын збавіў, было зацверджана і асвечана.

Спасланне Святога Духа таксама лічыцца адным з найважнейшых касцёльных свят. Нягледзячы на тое, што ўрачыстасць рухомая (дата ў календары залежыць ад Вялікадня), яна заўсёды прыпадае на росквіт вясны – у самую прыгожую пару года. Напэўна, па гэтай прычыне свята Спаслання Святога Духа мае таксама другую, не менш папулярную назву – Зялёныя святкі.

Народныя традыцыі, звязаныя з гэтай урачыстасцю, заўсёды адзначаліся весялосцю. Вясковы люд ладзіў шматлікія забавы на зялёным улонні прыроды, дзяўчаты плялі прыгожыя вянкі. Жыхары дамоў аздаблялі свае жыллё галінкамі лісцевых дрэў, у асноўным, бука, бярозы, ліпы, якія таксама закладвалі за абразы. Акрамя таго ўпрыгожвалі дзверы і вокны, вароты і весніцы, якія вядуць у загарадзь, нават платы і студні. Гэта сімвалізавала адкрыццё зялёных брам для Святога Духа, каб захацеў наведаць дамы для асвячэння сэрцаў і думак жыхароў. Між іншым, такія дэкарацыі мелі двайную функцыю: служылі не толькі ўпрыгожаннем, але і аховай ад камароў, блох і іншых насякомых.

Элементам святкавання таксама былі ўрачыстыя працэсіі, спевы і малітвы з просьбай да Бога аб добрым ураджаі і захаванні ад стыхійных бедстваў. У некаторых парафіях пасля св. Імшы вернікі на чале са святаром, які нёс Найсвяцейшы Сакрамант, абыходзілі межы палёў. Падчас працэсіі затрымліваліся каля прыдарожных каплічак, аздобленых з гэтай нагоды галінкамі і кветкамі.

Зялёныя святкі часта супадалі з першым выганам быдла на пашу. Жывёлу ўпрыгожвалі вянкамі, сцябалі зялёнымі галінкамі і акраплялі асвечанай вадой, пасля чаго выводзілі на поле.

Паўсюднай традыцыяй на Зялёныя святкі было развядзенне вогнішчаў на змярканні. Іх палілі побач з пашамі і палямі, падкідваючы драўніну дрэў і кустоў, якім прыпісваліся ахоўныя ўласцівасці. Гарэлі галіны ядлоўцу, піхты, елкі, цёрну, часам пучкі сушанай крапівы і дзядоўніку. Існавала перакананне, што попел, рассыпаны на палях, гарантуе лепшы ўраджай. З хрысціянскага пункту гледжання, палаючыя падчас свят вогнішчы злучаліся з агнём Святога Духа, спасланага на апосталаў.

У сувязі з тым, што сучасныя пакаленні пасвяць усё менш быдла, а ў гарадах не так шмат зеляніны і месцаў для вогнішчаў, да гэтага часу з багатых абрадаў Зялёных святак датрывалі толькі пэўныя элементы. У некаторых рэгіёнах нашай дыяцэзіі захаваўся звычай дэкарыравання дамоў зелянінай, асабліва чынам у тых мясцовасцях, дзе ў свята Спаслання Святога Духа адзначаецца парафіяльны адпуст. У гэты дзень вернікі ўпрыгожваюць таксама святыні і касцёльныя падворкі. Аднак назаўсёды нязменным застаецца вымярэнне ўрачыстасці, прысвечанай Святому Духу. Гэта дзякуючы Яму ў людскія сэрцы пранікае жывое слова Святога Пісання, а ўсе падзеі жыцця з верай успрымаюцца як праяўленне Божай дзейнасці.

# Генрых Глябовіч.

## Згарэў, запальваючы сэрцы

***12 чэрвеня Касцёл узгадвае 108 блаславёных мучанікаў, якія сталі ахвярамі Другой сусветнай вайны. Беатыфікацыю гэтых асоб у 1999 годзе здзейсніў Святы Айцец Ян Павел ІІ. Біскупы, святары, клерыкі, манахі і манахіні, а таксама свецкія вернікі засведчылі сваю гераічнасць у самыя складаныя часы пераследу і выпрабавання веры. Сярод той сотні людзей, якія аддалі жыццё за Хрыста і бліжніх, быў ураджэнец Гродна кс. Генрых Глябовіч. На працягу пэўнага часу ён служыў у некалькіх парафіях акупаванай Беларусі, дзе і загінуў.***

### З ЗАХАПЛЕННЕМ ДА АСВЕТЫ І РЭЛІГІІ

Кс. Генрыха ведалі як неверагодна інтэлігентнага чалавека. Ён скончыў Віленскую духоўную семінарыю, працягваў адукацыю ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. Атрымаў ступень доктара тэалогіі ў Віленскім універсітэце і доктара філасофіі пасля вучобы ў Папскім універсітэце св. Тамаша Аквінскага ў Рыме. Разумны не па гадах, ён у сваёй мудрасці захоўваў пакору і сціпласць. “Двойчы доктар, тройчы дурань”, – любіў жартаваць сам святар. З запалам імкнуўся да ведаў не для таго, каб захаваць іх для сябе, але каб служыць светачам для іншых.

Большую частку святарскага жыцця кс. Генрых правеў у Вільні. Служачы, не абмяжоўваўся выключна душпастырскай актыўнасцю. Здолеў сумяшчаць абавязкі вікарыя з шырокай асветніцкай і грамадскай дзейнасцю. Выкладаў у семінарыі і быў самым маладым прафесарам ва ўніверсітэце ў Вільні. Выконваў абавязкі сакратара Секцыі веры, культуры і звычаяў у архідыяцэзіяльнай курыі. З’яўляўся дырэктарам супольнасці школьнай моладзі “Гурток св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус”. “Гэта быў чалавек-паходня, які, дзе толькі магчыма, спыняўся і запальваў душы для Бога”. Так гаварылі пра кс. Генрыха ў асяроддзі, дзе яму даводзілася распачынаць сваю дзейнасць. Найбольшай актыўнасцю адзначыўся ў культурных рухах горада і студэнцкіх арганізацыях, у дапамозе ўбогім.



Каб больш плённа выхоўваць у хлопцах і дзяўчатах хрысціянскія каштоўнасці, нястомна шукаў шляхі ўзаемаразумення з імі, цікавіўся тым, што вабіла моладзь. Кс. Генрыху моцна сімпатызавалі, прымалі за “свайго”. З часам пачалі жартаваць, што “ён навяртаў, нават граючы ў брыдж”. Пра адданую любоў святара да юнацтва красамоўна гаворыць той факт, што ў ваенны перыяд падчас аднаго са св. Імшаў ён ахвяраваў сваё жыццё Богу дзеля выратавання веры маладога пакалення.

### ДЗЁРЗКІ ПЕРАД АБЛІЧЧАМ НЕБЯСПЕКІ

Пасля напружанай працы ў Вільні ў жыцці святара наступіў нялёгкі перыяд: ён захварэў на сухоты. Аднак немач не замініла працягваць інтэнсіўнае душпастырскае служэнне. У гэты час ён распачаў паслугу ў парафіі ў Троках. У гісторыю горада, вядомага сваёй шматнацыянальнасцю, кс. Генрых упісаўся як змагар за адзінства ў веры, распаўсюджвальнік ідэі экуменізму.

Аслаблены хваробай, ён быў адным з першых, хто падахвоціўся евангелізацыі на тэрыторыі Савецкага Саюза, акупаванай нацысцкай арміяй. У першыя месяцы гітлераўскага панавання на землях, што ўваходзілі ў склад БССР, наступіў кароткі перыяд паляпшэння сітуацыі Касцёла. Зноў былі адчынены святыні, замененыя ў склады, а вернікі з нецярплівасцю чакалі святароў.

У канцы верасня 1941 года ён узяў на сябе абавязкі пробашча адразу ў 3-ох парафіях: Хатаевічах, Коранi і Аколаве (сёння Мінска-Магілёўская архідыяцэзія). Не маючы душпастыра на працягу амаль 30-ці гадоў, людзі сустракалі святара з вялікім узрушэннем. З-за напапашанага аб’ёму працы кс. Генрых часам не паспяваў са служэннем: нястомна прамаўляў казанні, спавядаў, удзяляў св. Камунію, хрысціў, благаслаўляў сужэнцаў. Калі заканчваў з абавязкамі ў адной парафіі, спяшаўся ў другую, дзе яго ўжо чакаў натоўп вернікаў.

Святар надзвычай бясстрашна і ахвярна арганізоўваў рэлігійнае жыццё сярод тутэйшых жыхароў, не звяртаючы ўвагі на небяспеку, якая магла сыходзіць з боку ўлад. Ініцыятыўны, дзейсны арганізатар, харызматычны ксёндз, ён прыцягваў зашмат непатрэбнай увагі.

Па прычыне абвінавачванняў палітычнага характару, а менавіта за паланізацыю мясцовага насельніцтва, святар быў арыштаваны мясцовай паліцыяй і перададзены ў рукі гітлераўскай жандармерыі. У нядзелю 9 лістапада 1941 года, праз 2 дні пасля затрымання, кс. Генрыха Глябовіча расстралялі ў лесе каля Барысава, а цела закапалі ў невядомым месцы.

На жаль, па сённе не знойдзена месца, дзе пакінулі цела святара пасля экзекуцыі. Аддаць пашану трагічна загінуўшаму, але здабыўшаму хвалу ў небе кс. Генрыху, можна на яго сімвалічнай магіле ў мясцовасці Ляскі пад Варшавай, а таксама ў катэдральным касцёле ў Гродне, дзе яму прысвечана памятная табліца.



*“Я хачу жыць толькі для Цябе. Я не прагну плёну сваёй працы. Я імкнуся скласці сябе Табе ў ахвяру. Толькі зрабі ласку, Божа, прымі яе”.*

*Кс. Генрых Глябовіч*

*Ангеліна Марцішэўская*

# Ісці ў свет і абвяшчаць Евангелле



***29 чэрвеня а. Вальдэмар Слота, пробашч парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы, адзначае 25-ую гадавіну святарскіх пасвячэнняў. Юбілейная дата – не толькі нагода, каб падзякаваць за гэты дар, але таксама прычына для засяроджання над веліччу і абавязкамі, якія з яго вынікаюць. У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" юбіляр расказвае пра сваю паслугу на ніве Пана.***

***– Часта гавораць, што нявызнаныя шляхі Божыя, якімі Ён нас вядзе. Адных захоплівае для той ці іншай паслугі (святарскай, урачэбнай, настаўніцкай) паступова і спакойна, іншых – раптоўна і абсалютна нечакана. А. Вальдэмар, якім чынам Вы распазналі сваё пакліканне і адкрылі сэрца на заклік Пана?***



– Гэта быў доўгі, дастаткова складаны, але прыгожы шлях. Пасля школы я скончыў тэхнікум і, маючы 21 год, вырашыў, што пайду ў семінарыю, каб распазнаць сваё пакліканне, зразумець, ці прывільны шлях выбіраю. Я перажыў глыбокія змены: зарыентаваўся на новае жыццё, якое паступова пазнаў і выбраў як сваё, як дар Хрыста для мяне. У выніку, 29 чэрвеня 1994 года абп Юзаф Кавальчык усклаў на мяне рукі, і я атрымаў сакрамант святарскага пасвячэння.

***– Вы належыце да Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля. Чаму выбар упаў на айцоў рэдэмптарыстаў?***

– Паходжу з поўдня Польшчы. Недалёка ад маёй роднай мясцовасці знаходзіцца санктуарый Маці Божай Тухаўскай. Раз на год, а нават і часцей, мы прыязджалі ў Меншую Базіліку, каб пакланіцца Маці Міласэрнасці. Адпуст у гэтай парафіі трывае 9 дзён і з'яўляецца сапраўды велічнай падзеяй. Я сустракаў там місіянераў, якія прамаўлялі цудоўныя канферэнцыі, казанні. Ужо тады я зацікавіўся місійнай працай. Вырашыў стаць айцом рэдэмптарыстам з-за харызмы кангрэгацыі, што ўдзельнічае ў місіі Касцёла, які, будучы паўсюдным сакрамантам збаўлення, па сваёй прыродзе з'яўляецца місійным. Робіць гэта, з запалам абвяшчаючы Евангелле, выходзячы насустрач неадкладным патрэбам вернікаў.

***– Айцы рэдэмптарысты на працягу многіх гадоў актыўна працуюць на місійным полі ў Беларусі. Калі Вы прыехалі сюды з духоўнай паслугай?***

– Я ўпершыню наведаў Беларусь яшчэ будучы ў семінарыі. Гэта быў час, калі Усход паступова адкрываўся. Айцы рэдэмптарысты прыбылі сюды, каб праводзіць місіі і рэкалекцыі, а мы, семінарысты, дапамагалі айцам і святарам. Былі на Віцебшчыне ў такіх мясцовасцях, як Паставы, Опса, Глыбокае… У памяці захавалася вёска Відзы. На мясцовым касцёле не было даху, але нягледзячы на гэта вялікая колькасць вернікаў збіралася там на малітве. Мы праводзілі "Канікулы з Богам", прыязджалі таксама зімой, каб дапамагчы ў арганізацыі свят Божага Нараджэння. Сустрэча з верным людам, які так прагне Бога, была чымсьці цудоўным, вельмі захапляла.

Пасля прыняцця пасвячэнняў я служыў у парафіі Гліўцы ў Польшчы, якая налічвала 18 тысяч вернікаў. Вёў таксама катэхезы ў школе. А праз год па рашэнні айца правінцыяла быў накіраваны ў Гродна.

***– З якімі праблемамі давялося сутыкнуцца, распачынаючы ў 1995 годзе паслугу ў гродзенскай парафіі ў мікрараёне Дзевятоўка?***

– Калі я прыехаў у Гродна, сабрат, які прывёз мяне, убачыўшы тое ўбоства, сказаў, што не застаўся б тут ні хвіліны. Умовы сапраўды былі больш чым сціплыя. Тады яшчэ не было касцёла, толькі будавалася капліčка. Святарам нават не было дзе жыць – нам далі прытулак сёстры назарэтанкі. Хвала ім за гэта. Я штодзённа хадзіў 5 кіламетраў на Дзевятоўку, каб адправіць св. Імшу, а затым працаваў разам з людзьмі на будове, каб стварыць мінімальныя ўмовы для катэхезы. Мы разам будавалі парафіяльную супольнасць. У гэтай прастаце і ўбостве было вялікае выпрабаванне не толькі для духоўных асоб, але таксама для дзяцей і моладзі, якія туды прыходзілі.

Разам з манахінямі мы катэхезавалі, рыхтавалі да прыняцця сакрамантаў. Капліца заўсёды была перапоўнена. Да Першай св. Камуніі штогод прыступала больш за 200 чалавек, а з часам – каля 350-ці. У нас было звыш сотні міністрантаў і больш за 70 бялянак.

Я прывёз абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі, і адразу распачаліся навэнны.

Аднак, нягледзячы на развіццё парафіі, людзі не верылі, што ўдасца пабудаваць касцёл. Я сам, шчыра кажучы, нястомна пытаўся: "Пане Езу, як гэта будзе? Нічога ж не маем…". Прадстаўнікі арганізацый "Renovabis", "Kirche in not", якія падтрымліваюць працу каталіцкіх парафій і дапамагаюць у рэалізацыі розных ініцыятыў, гледзячы на праект, казалі: "Гэта немагчыма. У вас няма сродкаў. Хочаце скокнуць вышэй галавы". Але Пан Бог нас блаславіў і сёння на Дзевятоўцы ўзвышаецца касцёл, у які вернікі могуць прыйсці на св. Імшу, прыняць у св. Камуніі Пана Езуса, прыступіць да сакрамантаў. Некалі касцёльны пляц размяшчаўся на ўскраіне Гродна, а сёння ён знаходзіцца ў цэнтры вялікага мікрараёна.

З прыемнасцю ўзгадваю тыя 11 гадоў, тых цудоўных і любімых парафіян, якія цяжка працавалі на карысць супольнасці, служылі і днём, і ўначы. Пан Бог даў мне ласку прысутнічаць пры стварэнні парафіі, узнікненні новых малітоўных супольнасцей і груп. Усё гэта духоўна ўздымала, нягледзячы на тое, што кожны дзень даводзілася сутыкацца з новымі праблемамі.

***– З 2006 года Вы ахінаеце душпастырскай апекай парафію Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы. Раскажыце, калі ласка, як выглядае сёння штодзённасць мясцовых католікаў.***

– Я місіянер, таму стараюся служыць там, куды пасылае мяне Бог. Пасля прыбыцця ў 2006 годзе ў парафію мне трэба было аднавіць плябанію, якую ў плачэўным стане ўлады аддалі Касцёлу. Распачаў таксама рамонт святыні.

Людзі былі трохі напалоханыя: вядома ж, прыехаў новы, невядомы чалавек. Але нягледзячы на гэта мяне прынялі сардэчна. Напачатку цяжкавата было прыстасавацца: усё даводзілася рабіць самому. Нават каб прачытаць біблійны тэкст падчас св. Імшы не мелася ахвотнікаў. Гэта было для мяне незразумела, таму што прывык да таго, што вернікі самі прыходзяць, ахвотна ўключаюцца ў кожную ініцыятыву, прапанаваную душпастырам.

Пачатак заўсёды цяжкі, але які пасля цудоўны плён! Мы зладзілі прыгожую ўрачыстасць Першай св. Камуніі. Я запрасіў бацькоў прыняць рэальны ўдзел у гэтай святочнай падзеі. І тады людзі сапраўды раскрыліся, расправілі крылы сваёй набожнасці і веры.

Цяпер у парафіі кожны дзень адпраўляецца 2 св. Імшы. Дзеці і моладзь маюць свой катэхетычны дом, дзе сістэматычна праходзяць урокі рэлігіі. Праводзіцца таксама катэхеза для дарослых, сустрэчы міністрантаў і парафіяльных груп. Я наведваю больш за 50 хворых з навакольных вёсак. Магчымасць служэння гэтым людзям з'яўляецца для мяне цудоўным досведам, бо кожны з іх чакае добрага слова, споведзі, Пана Езуса.

Моладзь прымае актыўны ўдзел у парафіяльным жыцці, праводзіць шмат ініцыятыў. На Божае Нараджэнне, як і з іншых нагод, мы рыхтуем урачысты канцэрт. Значнай падзеяй з'яўляецца інсцэніраваны Крыжовы шлях вуліцамі Бераставіцы. Праўду кажучы, спачатку гэтую ідэю было цяжка рэалізаваць, таму што ў меншых парафіях цяжэй мабілізаваць людзей. Моладзь была больш ахвочай, старэйшае пакаленне – трохі менш. Але сёння ўжо няма з гэтым праблем: што прапануеш людзям, на тое згаджаюцца. Безумоўна, мы сур'ёзна падыходзім да справы: трэба падрыхтаваць касцюмы, сцэнарый, а гэта патрабуе часу. Аднак намаганні не ідуць дарма: адпраўляемся на вуліцу, даём публічнае сведчанне сваёй веры. Жыхары выходзяць з дамоў, пытаюцца, што адбываецца, фатаграфуюць. Гэтае мерапрыемства моцна яднае і адкрывае вернікаў адзін на аднаго. Нават праваслаўныя далучаюцца да ўдзелу ў гэтай падзеі.

***– Юбілей 25-годдзя святарства, напэўна, схіляе Вас не толькі да ўспамінаў і роздуму, але і да складання планаў на будучыню?***

– Планы запісаны ў Пана Бога. Я магу быць толькі прыладай для іх рэалізацыі, калі Ён дазволіць. Аднак, як кожнаму святару, мне хацелася б, каб колькасць вернікаў расла, каб у святыні было прыгажэй, велічней. Бясспрэчна, існуе мноства праблем і выклікаў, з якімі сутыкаемся ў сучасным свеце: так шмат разбітых сем'яў, так шмат пакалечаных дзяцей…

Быць побач з Панам – вялікі вопыт. 25 гадоў маёй святарскай паслугі – гэта цудоўны досвед, які месціцца глыбока ў сэрцы. За сваё рэдэмптарысцкае пакліканне штодзённа дзякую Богу а 7-ай раніцы ў капліцы. Цешыць, што я там не адзін, прыходзяць таксама вернікі. Калі прапанаваў парафіянам ранішнюю малітву, падкрэсліваў, што за першы прамень сонца, за ўсё, што маем, кім з'яўляемся, мы павінны з самай раніцы дзякаваць Пану. Так і робім.

Я таксама бязмежна ўдзячны ксяндзу біскупу Аляксандру Кашкевічу за яго памяркоўнасць, дабрыню, цярплівасць. На пачатку сваёй паслугі, калі не ведаў, што і як лепш зрабіць, паколькі быў малады і святарствам, і жыццём, і вопытам, прыходзіў да Эксцэленцыі, і ён заўсёды мог падтрымаць, даць добрую параду. Гэтая бацькоўская пастава пастыра нашай дыяцэзіі нястомна мяне захапляе.





На маім абразку ў памяць 25-ай гадавіны пасвячэнняў напісаны дэвіз нашай кангрэгацыі: "Шчодрае ў Яго адкупленне". Прагнем несці тое, што перадаў нам Хрыстос. Не ставіць сябе на першае месца, але памятаць, Каму служым, Хто нас паклікаў, Хто запрасіў. Сваю паслугу і тых, да каго быў пасланы, даручаю Маці Божай Нястомнай Дапамогі і прашу, каб далей мне дапамагала быць слугой Найсвяцейшага Адкупіцеля.

*Кінга Красіцкая*




PCh24.pl

### *Мусульмане пераходзяць у каталіцызм*

***У Касцёле ў Францыі пастаянна павялічваецца колькасць новых вернікаў, навернутых з ісламу.***

*Пісьменнік і гісторык Жан-Франсуа Шэма, рыхтуючы навуковыя публікацыі, звяртае ўвагу, што былыя ісламісты часта пераходзяць у каталіцызм з-за звышнатуральнага досведу. "Многія навяртаюцца пад уплывам бачанняў, сноў, цудаў ці невераго дных сустрэч", – расказвае французскі пісьменнік. Як вынікае з даследавання, адносна няшмат навяртанняў адбываецца пад уплывам т. зв. сучаснай евангелізацыі і размоў у стылі "Езус цябе любіць".*




### *Марыйная ўрачыстасць у дзяржаўным календары*

***Свята Нараджэння Маці Божай абвешчана нацыянальным святам на Філіпінах.***

*Адзначаемае ў Касцёле 8 верасня, яно стала 2-ім дзяржаўным марыйным святам. 2 гады таму парламент і ўрад гэтай краіны абвясцілі афіцыйным святочным днём 8 снежня, калі Касцёл святкуе ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

*У свята Беззаганнага Сэрца Марыі ў 2013 годзе каталіцкія біскупы даручылі Філіпіны пад апеку Маці Божай. Гэтая падзея з'яўляецца важным крокам у межах падрыхтоўкі да 500-годдзя ўвядзення хрысціянства на Філіпінах, якое прыпадае ў 2021 годзе.*




### *Святароў навучаць карыстацца інтэрнэтам*

***Касцёл у Германіі ў рамках 2-дзённага "smartcamp" плануе правесці навучанне, як выкарыстоўваць сацыяльныя сеткі. У ім прымуць удзел каля паўсотні духоўных асоб.***

*Падчас адукацыйных заняткаў святароў навучаць, як карыстацца інстаграмам, ютубам і пісаць блогі. У рамках мерапрыемства будуць закрануты пытанні адносна таго, якія пагрозы існуюць у лічбавай прасторы, у прыватнасці, узлом профілю і кібермобінг.*

*"Касцёл павінен пашыраць метады камунікацыі", – сказаў Андрэас Петман, палітолаг, эксперт па пытаннях рэлігіі. Аднак дадаў, што "святары павінны захоўваць асцярожнасць, калі гаворка ідзе пра падыход да сацыяльных медыяў, і падумаць, ці на самой справе маюць час для правільнага карыстання імі, улічваючы суровы тон многіх анлайн-дэбатаў".*




## Ці можа некатолік спавядацца ў каталіцкага святара?

*У той самы час як некаторыя католікі з падазрэннем ставяцца да святой споведзі і могуць увогуле занядбаць сваё рэлігійнае жыццё, знаходзяцца іншыя асобы, якія – натхнёныя – з вялікай павагай і цікаўнасцю глядзяць на сакраманты каталіцкай веры. Прадстаўнікоў некаталіцкага веравызнання часта цікавіць спосаб атрымання псіхалагічнай палёгкі, калі яны могуць распавесці пра свае праблемы каму-небудзь іншаму, і суцяшэння, калі могуць пачуць словы малітвы адпушчэння грахоў. Але ці мае права некатолік стаць у чаргу да каталіцкага святара, каб скарыстаць сакрамант паяднання?*

*Адказ на гэтае пытанне можна знайсці ў Кодэксе кананічнага права, у якім вельмі ясна гаворыцца пра сакраманты ў Каталіцкім Касцёле. "Служыцелі-католікі правамоцна ўдзяляюць сакраманты толькі католікам-вернікам, якія таксама правамоцна прымаюць іх толькі ад служыцеляў-католікаў" (кан. 844 §1). Такім чынам, каб атрымаць правамоцна сакрамант святой споведзі ў каталіцкага святара, трэба знаходзіцца ў поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам, г. зн. быць католікам.*

*Кодэкс кананічнага права вызначае некаторыя выключэнні для ахрышчаных некатолікаў: "Калі існуе небяспека смерці або калі, на думку дыяцэзіяльнага біскупа або Біскупскай Канферэнцыі, існуе іншая сур'ёзная неабходнасць, служыцелі-католікі могуць правамоцна ўдзяляць тыя ж сакраманты (споведзь, намашчэнне хворых, Эўхарыстыя) хрысціянам, якія не знаходзяцца ў поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам (некатолікам), якія не маюць магчымасці прыняць гэтыя сакраманты ад служыцеля ўласнай супольнасці і просяць аб іх удзяленні спантанна, пры ўмове, што ставяцца да гэтых сакрамантаў з каталіцкай верай і да гэтага добра падрыхтаваныя" (кан. 844 §4). Адсюль вынікае, што ў некаторых абставінах, напрыклад, праваслаўны вернік можа папрасіць аб сакраманце споведзі каталіцкага святара, бо ў Праваслаўнай Царкве існуюць тыя ж самыя сакраманты, і Каталіцкі Касцёл прызнае іх дзейснымі. Аднак каталіцкі святар можа ўдзяліць адпушчэнне грахоў некатоліку толькі ў рэдкіх выключэннях, напрыклад, у выпадку небяспекі смерці.*

*Безумоўна, хрысціяне-некатолікі маюць права пры неабходнасці шукаць духоўную дапамогу таксама і ў Каталіцкім Касцёле. Каб атрымаць яе, дастаткова падысці да каталіцкага святара і дамовіцца з ім аб сустрэчы. Аднак што датычыць споведзі, якая вызваляе чалавека, адкрываючы яму новы шлях, то маем справу з выключным сакрамантам. І каб прыняць гэты каштоўны дар ад каталіцкага святара, трэба належаць да Каталіцкага Касцёла.*

*Кс. Аляксей Ляшко*
***Паводле catholicnews.by***

*З Богам праз штодзённасць*

# Рахунак сумлення як штодзённая малітва



Нядаўна ў калідоры дзіцячай музычнай школы, чакаючы сына, я пачула, як настаўніца гаварыла юнай цымбалістцы: "Прапявай музыку самой сабе. Зайграла не тую ноту? Выпраўляйся і грай далей, не спыняйся". Цікавы вобраз для разважання. Мы дапраўды часта "фальшывім" у жыцці, бяром не тыя ноты, не вытрымліваем паўзы, няўважліва слухаем Кампазітара і Дырыжора неверагоднай сімфоніі Сусвету, у якой маем уласнае непаўторнае гучанне. Але дзеля таго, каб выправіць памылку, трэба ведаць сваю партыю. Яна павінна гучаць дзесьці ўнутры, нягледзячы на знешні шум: мелодыя любові да Бога і бліжняга. Сумленне дапамагае адчуць фальш і страту гармоніі. Дастаткова толькі не заглушаць яго голас у сэрцы, а прыслухвацца да падказак.

І гэтае добрае жаданне прыводзіць нас да такой цудоўнай формы малітвы, як рахунак сумлення. Многім здараецца карыстацца ім толькі па неабходнасці, падчас падрыхтоўкі да споведзі. І тое – не напоўніцу, а дзеля "падліку" грахоў і недахопаў. Варта вырашыцца на штодзённы рахунак сумлення, бо ў ім утоены вялікі духоўны скарб.

**Па-першае,** рахунак сумлення – гэта на самой справе форма малітвы, а не самабічавання.

**Па-другое,** заснаваная на павучэннях св. Ігнацыя Лаёлы (змешчаны ў яго кнізе "Духоўныя практыкаванні"), яна прадугледжвае пастаяннае карыстанне гэтым метадам як гімнастыкай для духа.

**Па-трэцяе,** менавіта гэтая размова з Богам адчувальна і дзейсна наталяе ўнутраную смагу душы.

Парадокс у тым, што чым больш пахвальных рэчаў мы чуем у адрас рахунку сумлення (іншыя назвы: 15 хвілін шчырасці, малітва любячай увагі, прагляд дня), тым эфектыўней яго пазбягаем. Калі рахунак сумлення такі выдатны і духоўны, то трэба адпаведна да яго дарасці, праўда? Выбраць час, даведацца аб ім як мага больш... Знаёмыя адгаворкі? Сёння я паспрабую нагадаць асноўныя этапы гэтай малітвы і паразважаць, навошта ўваходзіць у тое, чаго не надта хочацца рабіць, ды яшчэ трываць штодзённа.

Паводле св. Ігнацыя, рахунак сумлення ў арыгінальнай форме мае 5 крокаў:

***1. Усведамленне прысутнасці Бога і падзяка Яму за ўсё, што чалавек прымае як дар (няўдзячнасць з'яўляецца "крыніцай усякага зла");***

***2. Просьба аб святле, каб убачыць і вызваліцца ад усяго, што перашкаджае паўнавартаснаму жыццю і любові;***

***3. Прагляд падзей дня – ад раніцы да вечара (не толькі здарэнняў, але і ўнутраных адчуванняў, у тым ліку ўплываў і спакус злога духа);***

***4. Просьба аб міласэрнасці і прабачэнні грахоў;***

***5. Даверлівы зварот да Божага Духа, якому належыць будучыня, каб Ён падтрымаў імкненне да дабра і любові, да больш дасканалага адказу Богу сваім жыццём.***

Усё разам можам прадставіць у такім выглядзе: дзякуем – просім аб святле – праглядаем дзень – просім прабачэння – глядзім у будучыню. І ўсё гэта чынім у прысутнасці Бога і з надзеяй на Яго любячы позірк і падтрымку.

Такі малітоўны метад як "прагляд дня" вельмі падобны да штодзённага рахунку сумлення. Ён звычайна займае 10–15 хвілін. Галоўная мэта – "уважлівае і паглыбленае распазнаванне: дзе Пан быў са мной на працягу гэтага дня і як я прабываў ды супрацоўнічаў з Ім", – адзначаюць айцы Янез Север SJ і Віктар Жук SJ, якія ўжо шмат гадоў праводзяць духоўныя практыкаванні па гэтым метадзе. Далей я прывяду вытрымкі з артыкула іх аўтарства на тэму прагляду дня (размешчаны ў інтэрнэце на сайце catholic.by).

***У якасці першага кроку ў малітве я "прашу аб святле".*** Звяртаюся да Бога сваімі словамі з просьбай аб тым, да чаго імкнуся ў гэтай малітве. Прашу здольнасці спыніцца і цягам наступных 10-15 хвілін зрабіць хаця б мінімальны высілак для прагляду дня, пражытага разам з Ім.

***Другі крок – удзячнасць.*** Я магу дзякаваць Богу за ўсё, што адбылося сёння: за канкрэтныя малыя і вялікія дары. Неабходна назваць кожны асобны дар, атрымліваючы ад гэтага асалоду. Пакуль не называю яго, дар яшчэ не прыняты мною. А калі асабліва складана быць удзячным, можна проста прызнаць гэта перад Богам і сказаць: "Пане, я сляпы! Сёння нічога добрага ў сваім жыцці не ўбачыў. Дай мне новыя вочы, новае сэрца і новыя вушы. Навучы мяне маліцца. Сам не ўмею".

Можа стацца і так, што мы не здольны ўбачыць дабро, бо зацыклены на саміх сабе і выключна на ўласных перажываннях, думках і эмоцыях. Удзячнасць – адзін са спосабаў забыцца на сябе і засяродзіць увагу на Іншым, па-нада мною.

***Сабраўшы ўсе "плёны ўдзячнасці", магу перайсці да трэцяга кроку – прагляду маіх знешніх і ўнутраных рэакцый на тое, што адбывалася сёння.*** Сутнасць заключаецца ў распазнаванні дзеяння "духаў" у штодзённым жыцці, і ў першую чаргу – дзеяння Духа. Калі практыкуюся з дня ў дзень ва ўважлівасці такога кшталту, то навучуся заўсёды знаходзіць тыя моманты, калі Бог быў блізка, "дакранаўся" да мяне. Здольнасць адчуваць гэта – вялікі Божы дар, і ён варты таго, каб прасіць аб ім Пана.

Падчас прагляду дня трэба зірнуць яшчэ і на тое, як я адказваў на Божую блізкасць, на Яго заклік. Дзе Бог заахвочваў мяне зрабіць добрую справу, падводзіць сябе як Яго дзіцё? Спроба адказаць на такія пытанні часта выклікае адчуванне, што я вельмі "не дацягваю" да хрысціянскага ідэалу. Пачуццё віны бывае карысным і паходзіць ад Пана, але толькі напачатку, каб чалавек зразумеў: "Я зграшыў!". Пасля гэтага гаючага ўсведамлення Ён жадае адразу забраць ад мяне цяжар, які можа ператварыцца ў нязносны прыгнёт.

***Таму наступны, чацвёрты крок малітвы – просьба аб прабачэнні і даверы да Божай міласэрнасці, аб аздараўленні каранёў маёй здольнасці адказваць любоўю на Божы дар у сваім жыцці.*** Гаворка не пра тое, каб зняць з сябе адказнасць, але каб вучыцца бачыць сябе прабачанымі грэшнікамі. Пан "забываецца" на нашы грахі, але ніколі не забываецца на нас. Мы хутка стамляемся ад сябе ці ад іншых, а Бог не стамляецца ніколі! Вось таямніца Яго любові і крыніца нашай надзеі. Думаю, што некаторыя вернікі падсвядома пазбягаюць рахунку сумлення як сталай практыкі, што нагадвае пра іх недахопы, менавіта таму, што не заўважаюць у ёй доступ да Божай міласэрнасці, да прыняцця, да прабачэння, якое вызваляе.

Пан "дзеля свабоды вызваліў нас" (Гал 5, 1). ***Такім чынам, мы можам глядзець у будучыню з надзеяй; у гэтым і заключаецца сутнасць апошняга, пятага пункту малітвы прагляду дня.*** Мы запрашаем Бога ў сваю будучыню, а дакладней кажучы, стараемся пачуць і прыняць Божае запрашэнне ўвайсці ў Яго будучыню.

Вельмі раю знайсці і прачытаць цалкам гэты артыкул «Прагляд дня»: практычны дапаможнік у малітве", а таксама кнігу а. Юзафа Аўгустына SJ на рускай мове "Четверть часа искренности". Карысна таксама пагаварыць з чалавекам, які практыкуе малітву даволі доўгі час. У той жа момант трэба ўсведамляць, што правільных формул няма, рахунак сумлення – гэта малітва шчырасці. Гэта адшуканне сваёй сцежкі да Бога і да самога сябе. Гэта аздараўленне і паглыбленне духоўнага жыцця.

Удзячнасць за ласкі, памяць пра падзеі, увага да Божай прысутнасці, да Яго натхненняў – усё гэта добра і прывабна, але вяртанне да балючых момантаў, да прыніжэння, разгубленасці, правалаў, бруду, зла – навошта? Варта памятаць, што сутнасць рахунку сумлення – у любові. Бог любіць і адорвае незлічонай колькасцю ласкаў, няўдзячнасць за якія надта лёгка становіцца "крыніцай усялякага зла". А ў чым мая любоў да Бога? Ці адкрываю я перад Ім свае цёмныя закуткі? Ці дзялюся перажываннямі, якія сапраўды мяне кранаюць? Калі злаўлю ў хвіліны шчырасці свой недавер да Бога як Крыніцы дабра і любові, то што зраблю з гэтым адкрыццём? Прынясу Богу ці схаваю ў сабе? Першае набліжае, а другое, на жаль, аддаляе, хоць жаданне даць Пану толькі найлепшае нядрэннае само па сабе.

Тым не менш, унутраны супраціў можа заставацца, можа вярнуцца праз некаторы час практыкавання рахунку сумлення. Але любая важная і вартая справа спалучана са змаганнем. Праз усё жыццё мы вучымся любіць, шанаваць Бога і людзей, ісці за натхненнямі Духа. Як трапна піша ў вышэйзгаданай кнізе а. Юзаф Аўгустын SJ, "малітва да апошняга дыхання спалучана з цяжкай барацьбой, таму што малітва – гэта таксама праяўленне любові. За адказ, які мы даём Богу, і за вернасць у любові трэба змагацца. Толькі таму, хто на самой справе ведае жыццё, добра вядома, што вернасць у любові – ва ўсялякай любові – гэта не танная цнота, за якую дастаткова «заплаціць» крышынкай добрай волі".



*Тэрэса Клімовіч*

## НАВІНЫ



# АСВЯЧЭННЕ ПАДМУРКА КАСЦЁЛА СВЯТОГА ДУХА Ў ГРОДНЕ

Апостальскі нунцый у Беларусі абп Габар Пінтэр блаславіў падмурак і заклаў вуглавы камень касцёла Святога Духа ў Гродне, які разам з парафіяльным домам будуецца ў мікрараёне Альшанка. Вуглавы камень быў ахвяраваны кард. Анджэла Камастры, архісвятаром базілікі св. Пятра ў Рыме (Італія).

На ўрачыстасці сабраліся вернікі, якія прыйшлі цэлымі сем'ямі, і духавенства на чале з ардынарыем Гродзенскай дыяцэзіі б-пам Аляксандрам Кашкевічам. Вітаючы Апостальскага нунцыя, іерарх адзначыў, што прысутнасць прадстаўніка папы Францішка на гэтай гістарычнай падзеі з'яўляецца бачным знакам духоўнай блізкасці з Пантыфікам, яго айцоўскай любові і клопату. Абп Пінтэр выказаў радасць з магчымасці наведаць у чарговы раз горад над Нёманам і сустрэцца з маладой супольнасцю, якая з'яўляецца відавочным знакам развіцця і росту мясцовага Касцёла. Дзякуючы высокім гасцям за ўдзел ва ўрачыстасці, пробашч парафіі кс. канонік Павел Салабуда адзначыў, што супольнасць вернікаў прагне перш за ўсё далей будаваць жывы духоўны Касцёл, каб пасля з Божай дапамогай узвесці святыню з каменю, якая так патрэбна ў новым мікрараёне Гродна.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліў урачыстасць з нагоды 25-годдзя існавання парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе, на якую сабралася шматлікае духавенства, парафіяне і госці з Беларусі і з-за мяжы. Эўхарыстыя была цэлебравана ў інтэнцыі паспяховага развіцця гэтай парафіі і дапамогі Божага Провіду яе вернікам на далейшыя гады. Біскуп дзякаваў усім дабрадзеям і ахвярадаўцам, якія рознымі спосабамі на розных этапах будаўніцтва касцёла падтрымлівалі Божую справу. Словы ўдзячнасці ён адрасаваў і парафіянам за шчодрыя духоўныя і матэрыяльныя ахвяры, за супрацоўніцтва з пробашчам і за тое, што нярэдка асабіста працавалі пры ўзвядзенні святыні.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўнёс рэліквіі бл. Ежы Папялушкі, святара і мучаніка, у пабернардзінскі касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Гродне.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Члены малітоўнай групы "Апостальства добрай смерці" з Ліды наведалі Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь). Там прынялі ўдзел у св. Імшы, адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, а таксама адгаварылі ружанцовую малітву да 7-мі мукаў Маці Божай. Кусташ санктуарыя кс. Юрый Бяганскі падзякаваў Апостальству за наведванне санктуарыя і за садзеянне ў пашырэнні культу Маці Божай Тракельскай.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Сэрцанін Віталій Венцкевіч з Гродна атрымаў дыяканскае пасвячэнне. • Дзеці і моладзь з гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай наведалі пацыентаў хоспіса пры 2-ой гарадской бальніцы. • Творы сучасных беларускіх мастакоў прадстаўлены на выставе ў касцёле ў Жодзішках (дэканат Смаргонь). • Рэліквіі св. Яна Паўла II унесены ў парафію ў Воўпе (дэканат Масты). • Дзеці з гродзенскай парафіі св. Юзафа, якія сёлета прынялі Першую св. Камунію, здзейснілі пілігрымку ў Тракелі. • Фестываль сям'і адбыўся ў Навагрудку. • Дзень нараджэння св. Яна Паўла II адзначылі ў Смаргоні. • Малітва за маці адбылася ў Іўі. • На Астравеччыне ўшанавалі памяць святара і паэта Канстанціна Стаповіча – Казіміра Сваяка. • "Полымя міру" сустрэлі каля беларускага Нотр-Дама ў Гервятах (дэканат Астравец). •Сустрэча выпускнікоў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі 2000 года прайшла ў Парафіянаве (Віцебская дыяцэзія). • У 28-ую гадавіну біскупскай сакры кс. бп Аляксандр Кашкевіч наведаў санктуарый у Тракелях. • Фармацыйная сустрэча маладых святароў адбылася ў рэкалекцыйным доме ў Тракелях. • У араторыі пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні прайшоў 3-дзённы "Don Bosco Youth Fest". • У Лідзе адбылася сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі, дзе быў падсумаваны катэхетычны год.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 чэрвеня 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**6 чэрвеня 2015 г.** – кс. Ян Занеўскі, *проб. Квасоўка;*
**8 чэрвеня 1981 г.** – кс. Юзаф-Мар'ян Масангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г.** – кс. прэлат Міхал Варанецкі СМ, *ген. вік., Гродзенская ВДС.*

## АНОНСЫ

### IV АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС СЯМЕЙНЫХ РУХАЎ ПРОЙДЗЕ ПАД НАЗВАЙ "БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ"

**Кангрэс адбудзецца з 7 па 9 чэрвеня ў Ляскоўцы, што пад Мінскам.**

На мерапрыемстве прагучаць даклады, у якіх будзе раскрыта філасофская канцэпцыя сям'і, спецыфіка адносін паміж маці і дачкой, праблематыка небяспечных паводзін дзяцей і моладзі, звязаных з віртуальным светам і інш. Таксама будзе дзейнічаць майстэрня "Суперцесць, суперцешча".
Кангрэс арганізоўваецца Радай па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць 5–12 чэрвеня пад кіраўніцтвам а. Віктара Жука SJ.**

Асаблівасць такіх рэкалекцый заключаецца ў тым, што яны адбываюцца ў маўчанні. Кожны дзень праходзіць размова з духоўным кіраўніком.
Да ўдзелу запрашаюцца вернікі, кансэкраваныя асобы і святары.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: (8 029) 376-02-93 – кс. Павел Раманоўскі. E-mail: romanowski_pawel@mail.ru*

### "ЛЮБЧЫ З БОЖАЙ ЛАСКІ ПРЫСВЯЧЭННЕ"

**Паэтычны конкурс пад такой назвай аб'яўляе парафія св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Ён прымеркаваны да асвячэння капліцы ў гарадскім пасёлку Любча, якое адбудзецца 29 чэрвеня.**

Да разгляду прымаюцца вершы ўласнага сачынення на беларускай, рускай і польскай мовах. Конкурсныя работы павінны мець духоўны змест і быць прысвечаны гістарычнаму мінуламу або сённяшняму дню Любчы. Гэта могуць быць творы пра вернікаў, знакамітых асоб і нашых сучаснікаў, пра хрысціянскія святыні, прыроду і культуру пасёлка.
Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі, а лепшыя творы будуць надрукаваны на старонках парафіяльнай газеты "Каталіцкі Навагрудак".
Вершы і кароткі аповед пра сябе неабходна даслаць да 15 чэрвеня на адрас: парафія св. Міхала Арханёла, 231400 г. Навагрудак, вул. Савецкая, 2 – альбо на электронную пошту: faiushka@mail.ru.

*Даведкі па тэлефоне: (8 029) 787-15-89.*

### "МАРЫЯ, АТУЛІ НАШЫЯ СЕМ'І"

**Юбілейныя ўрачыстасці пад такім дэвізам пройдуць 12–13 ліпеня ў санктуарыі Гродзенскай дыяцэзіі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.**

У гэтым годзе адзначаецца 25-годдзе абвяшчэння парафіяльнай святыні ў Тракелях Дыяцэзіяльным санктуарыем Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў і 10-годдзе каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Тракельскай, а таксама 210-годдзе пабудовы мясцовага касцёла.

**Праграма ўрачыстасцей**

16.00 –19.30 – прывітанне пілігрымаў;
19.45 – урачыстае ўнясенне абраза Маці Божай Тракельскай на палявы алтар і прывітанне прысутных;
20.15 – падрыхтоўка да св. Імшы;
20.30 – св. Імша (цэлебруюць новапрэзбітэры);
22.00 – Марыйны зварот;
22.30 – канферэнцыя на тэму сям'і;
22.50 – выстаўленне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
23.20 – падрыхтоўка да св. Імшы;
23.30 – працэсія са свечкамі і Ружанец (Радасныя таямніцы);
00.00 – св. Імша Пастэрка;
02.00 – канцэрт музычнага гурта Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі "AVE";
03.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
03.40 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
05.00 – Ружанец (Таямніцы святла);
06.00 – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
06.40 – Марыйныя і традыцыйныя песні;
07.30 – сведчанні сем'яў;
08.30 – Ружанец (Хвалебныя таямніцы);
09.10 – аднаўленне сужэнскіх абяцанняў;
09.45 – падрыхтоўка да св. Імшы;
10.00 – урачыстая св. Імша, якую ўзначаліць Апостальскі нунцый у Беларусі абп Габар Пінтэр з удзелам святароў-юбіляраў;
– падзяка спонсарам і ахвярадаўцам.

*У праграме магчымыя змены.*

## Каляндар падзей

***2 чэрвеня***
*Дыяцэзіяльны дзень бацькі. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых бацькаў.*

***3 чэрвеня***
*Успамін св. Карла Лвангі і паплечнікаў, мучанікаў.*

***5 чэрвеня***
*Успамін св. Баніфацыя, біскупа і мучаніка.*

***8 чэрвеня***
*Успамін св. каралевы Ядзвігі.*

***9 чэрвеня***
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа. Заканчэнне Велікоднага перыяду.*

***10 чэрвеня***
*Свята Найсвяцейшай Панны Марыі Маці Касцёла.*

***11 чэрвеня***
*Успамін св. апостала Барнабы.*

***12 чэрвеня***
*Успамін св. Генрыха Глябовіча, прэзбітэра, і паплечнікаў, мучанікаў ІІ Сусветнай вайны.*

***13 чэрвеня***
*Свята Езуса Хрыста Найвышэйшага і Вечнага Святара.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Аб Божым блаславенні для парафіяльных супольнасцей нашай дыяцэзіі, якія будуюць новыя святыні. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

Дзіцячы куточак

# Канікулы – час з Богам

***Прывітанне, Маленькі Чытач! Напэўна, у апошні дзень навучальнага года Ты вярнуўся дамоў і падумаў: “Нарэшце канікулы! Куды б паехаць? Я ж заслужыў адпачынак!”. Мяркую, гэты час у кожнага з нас асацыіруецца з чымсьці пазітыўным, прыемным. Давайце паспрабуем уявіць, якая карціна адкрываецца вачам, калі думаем пра канікулы. Пляж і спакойнае мора з прыгожым захадам сонца, пальмы і тропікі, горныя вяршыні, горад з цікавай архітэктурай, які плануем наведаць... Што Ты будзеш рабіць у час адпачынку? Рыбачыць, плаваць у вадаёме, лазіць па гарах, даследаваць мясцовасць, загараць, чытаць, ездзіць на веласіпедзе?***

*102 гады мінула, як Лета – час гарачы, лянівы. Жыццё ідзе больш павольна, нібы ў іншым вымярэнні. Мы адпачываем… І менавіта летам вельмі лёгка пакідаем Бога на заднім плане. Адчуваючы сябе свабоднымі і радаснымі, забываемся пра абавязкі добрага хрысціяніна. А Бог? Ён чакае.*

*Св. Ян Боско, які жыў у Італіі ў XIX стагоддзі, апекаваўся беднымі хлопцамі. Калі набліжаўся час канікул, ён стараўся пераканаць сваіх маладых сяброў у тым, каб у вольны час “не крыўдзілі Бога і не шкодзілі сваёй душы”. “Калі бацька адпраўляе сваіх дзяцей далёка, – аднойчы сказаў св. Ян Боско, – то, нягледзячы на ўпэўненасць, што тыя паслухмяныя і ведаюць, як сябе паводзіць, усё роўна непакоіцца, каб яны не заблукалі, не трапілі ў непрыемную сітуацыю. Ён так іх любіць! Я і ёсць гэты бацька, а вы – мае дзеці, якія неўзабаве пакінуць свайго бацьку, выязджаючы на канікулы. І каб не здарылася штосьці дрэннае, хачу даць вам некалькі парад. Перш за ўсё, памятайце, што Бог бачыць вас заўсёды і ўсюды, таксама і ў моманты адпачынку і забавы. Каб не абразіць Пана, не адысці ад Яго, варта пазбягаць кантакту з дрэннымі людзьмі. Гэта тыя, хто ганіць, ліхасловіць пра рэлігію, мае нядобрыя намеры. Падчас канікул вы павінны знайсці час для нядзельнай і святочнай св. Імшы, для рэгулярнай споведзі і св. Камуніі, а таксама для штодзённай ранішняй і вячэрняй малітвы. Нягледзячы на вольны час, якога ў вас цяпер удосталь, мусіце змагацца з лянотай. Клапаціцеся аб тым, каб не згубіць ні хвіліны!”.*

*Перад пачаткам канікул св. Ян Боско часта казаў: “Вам трэба чытаць і вучыцца, таму што маеце добрую магчымасць выправіць недахопы навучальнага года. Чытанне не толькі забаўляе, але больш за ўсё вучыць. Канікулы – гэта таксама час для таго, каб дапамагчы бацькам. Яны працуюць круглы год дзеля дабрабыту сям’і. Дапамагаючы ім у свой вольны час, можаце ўзнагародзіць іх за гэта... Я б рэкамендаваў вам яшчэ тысячу іншых рэчаў. Усё дзеля таго, каб перажылі канікулы добра. Аднак спынюся на адной парадзе, якая змяшчае ў сабе ўсё, аб чым хацеў бы Вас папрасіць. Не здзяйсняйце аніводнага граху! Бараніцеся яго, як атрутнай змяі. Калі вам гэта ўдасца, перажывеце добрыя канікулы, вярнецеся здаровымі і жыццярадаснымі, гатовымі распачаць наступны год навучання і працы. Пакідаю вам гэтыя словы, як бацька, які любіць сваіх дзяцей”.*

*Дарагі Маленькі Чытач! Я таксама далучаюся да парад гэтага вялікага святога і напрыканцы замест задання хачу падзяліцца з Табой незвычайнымі 10-цю запаведзямі на канікулы. Можаш раздрукаваць іх на вялікім аркушы паперы, каб заўсёды былі перад вачамі.*

***10 запаведзей на канікулы:***

*1. Развітайся са сваімі бацькамі, але не з Богам.*
*2. Не забудзься пра заплечнік, пакладзі ў яго малітоўнік і ружанец.*
*3. Вазьмі добры абутак, каб падчас канікул прыйсці ў касцёл.*
*4. Размаўляй не толькі з людзьмі, але з Богам – часта маліся.*
*5. Рухайся па компасе і запаведзях, і не заблукаеш.*
*6. Заўсёды май поўны страўнік і ніколі – пустое сэрца: прымай св. Камунію.*
*7. Надзень цёмныя акуляры, але не закрывайся ад Бога.*
*8. Не пакідай смецце на стаянках, тым больш у сваёй душы.*
*9. Не кідай на шляху камяні, але ўсмешку.*
*10. Пасля канікул запішыся на катэхезу, заплануй рэгулярныя сустрэчы з Панам Богам*



**Памятай:** ***Божых запаведзей і Касцёльных наказаў няма канікул!***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю**
з нагоды 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу ў веры, сіл і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Няхай святы Заступнік і Маці Божая атуляюць Вас сваёй апекай, а Святы Дух асвячае святарскі шлях. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітвы і цярплівасць да нас. Няхай міласэрны Бог блаславіць Вашых бацькоў.
*З малітвай вернікі з Крупава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вальдэмару Слоту**
з нагоды 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем апекі Маці Божай, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень Вашай душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.
*Парафіяне з касцёла Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны новы Божы дзень, кожны крок на Вашым жыццёвым шляху будзе шчаслівы. Няхай будуць бласлаўлёныя Вашы святыя далоні, якія ўдзяляюць вернікам Божае Цела, здароўе і шчасце заўжды Вам спрыяюць, а жыццё мінае ў радасці.
*Былыя парафіяне са Мсцібава*

**Паважаныя Ксяндзы Ян Гавэцкі, Артур Валчкевіч і Віталій Цыбульскі!**
З нагоды гадавіны Вашых святарскіх пасвячэнняў дзякуем Богу за тое, што сярод соцень рук абраў Вашы і даў ім бласлаўленне, а ў словах даў сілу агня, што уключыў Вас у сваё святарства, учыніў цэлебрантамі Эўхарыстыі і Божага прабачэння. Няхай Дух Суцяшыцель будзе з Вамі праз свае святыя дары, а Панна Марыя дапаможа аднавіць і захаваць першапачатковую любоў да Бога і Касцёла, якой былі напоўнены Вашы сэрцы ў дзень пасвячэнняў.
*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды 35-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні.
Прыміце, дарагі наш, словы шчырыя і простыя:
Хай у гэты дзень святочны Бог дасць Вам ласкаў мноства!
У пакліканні ўзмацняе, бароніць, калі трэба,
Прамой, надзейнай сцежкай Вас вядзе ў Неба.
Сваім святарскім сэрцам спявайце ў падзяку
За службу для Хрыста – вялікую адзнаку.
А мы Ваш дзень будзённы ўсмешкай апраменім
І свае віншаванні ў малітву пераменім.
*Парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Балі Касцёльнай*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды 35-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Няхай Найвышэйшы Святар – Езус Хрыстус – заўсёды Вас бласлаўляе ў апостальскай дзейнасці і будзе крыніцай Вашай радасці. Няхай добры Бог адорвае шчодрымі ласкамі, моцным здароўем, радасцю і ўменнем перамагаць штодзённыя клопаты. Няхай разам з моцай перамянення хлеба і віна Ён дае Вам моц перамяняць людскія сэрцы. Шчасці Божа!
*Парафіяльная рада з касцёла Нараджэння НПМ у Балі Касцёльнай*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю і спакоем, а добры Бог узнагароджвае Вас за паслугу ў нашай парафіі.
*Былыя парафіяне з Ізабеліна*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Пышынскі!**
Шчыра віншуем Вас з 9-ай гадавінай святарскіх пасвячэнняў і служэння ў нашай парафіі. Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця. Прагнем выказаць таксама словы ўдзячнасці. Як хораша становіцца на сэрцы, калі збіраемся разам у касцёле на св. Імшы. Вы заўсёды сустракаеце нас добразычлівым позіркам. Нізкі паклон за культуру, шчырасць і сардэчнасць, за тое, што даступна тлумачыце Божае слова, якое робіць нас больш добрымі і міласэрнымі. Узносім да Пана малітвы і дзякуем за такога адукаванага, разумнага і сумленнага святара. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень жыцця, Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца, добры Бог адорвае шчодрымі ласкамі, а святы Заступнік нястомна моліцца за Вас.
*З павагай Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла ў Рандзілаўшчыне*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскам**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, бясконцых сіл і штодзённай радасці. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі, Езус няхай валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды знаходзіцца побач. Мы вельмі ўдзячны Богу за тое, што ў нас служыць святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў малітве і працы, гатовы заўсёды прыйсці на дапамогу. Дзякуем Вам за павучальныя казанні, дабрыню, зычлівую ўсмешку, цярплівасць, сціпласць, клопат пра людзей.
*З павагай і малітвай вернікі з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**
з нагоды 25-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем шчырыя пажаданні моцнага здароўя. Няхай Вам надалей хапае сіл, каб лячыць людскія душы праз абвяшчэнне Божага слова, цэлебрацыю сакрамантаў, асабліва Эўхарыстыі, арганізацыю разнастайнай пастырскай дзейнасці. Шчыра дзякуем за паслугу, малітву, дабрыню і клопат пра кожнага з нас.
*Парафіяне з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Жупранах*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**
з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем вялікай радасці ад кожнага дня душпастырскай паслугі, Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем і бласлаўленнем, а Маці Божая мае ў сваёй апецы і выпрошвае патрэбныя ласкі у Пана, каб Вы далей адважна крочылі па нялёгкіх сцежках святарскага жыцця.
*Парафіяне з Адамавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
з нагоды 57-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем мноства сардэчных пажаданняў: радасці, душэўнага супакою, поспехаў і аптымізму. Хочам асабліва падзякаваць за паслугу Богу і людзям. Няхай кожны дзень ахвярнай працы будзе асвечаны святлом Святога Духа, міласэрны Бог заўсёды Вас аберагае, а Найсвяцейшая Панна Марыя праз нашы малітвы ўзнагароджвае і адорвае Вас сваім заступніцтвам і любоўю.
*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння складаем шчырыя і сардэчныя віншаванні. Няхай Езус, якога кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, бласлаўляе Вас, Маці Божая ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух будзе штодзённым госцем. Дзякуем Вам за шчырую малітву, мудрыя парады, за цярплівасць і зычлівасць да людзей і клопат пра нашу святыню.
*Вернікі з парафіі Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вальдэмару Слоту**
з нагоды 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае бласлаўленне спадарожнічае Вам кожны дзень, Маці Божая апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі і асвячае дарогу да Пана. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, моцы ў абвяшчэнні Божага слова і радасці ў адкрыванні таямніцы паклікання.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважаным Айцам Місіянерам Андрэю Ядкоўскаму і Валерыю Мазюку**
прагнем скласці словы шчырай удзячнасці за вялікі дар парафіяльных святых Місій. Нашу ўдзячнасць скіроўваем, перш за ўсё, Богу, паўтараючы па прыкладзе св. Яна Паўла II: “Будзь праслаўлёны, Пане, за сведчанне Тваіх місіянераў”. Вам, дарагія Святары, дзякуем за тое, што Вы прыбылі да нас, каб сеяць Божае зерне, за простыя, але адначасова мудрыя і высакародныя словы, што ліліся прама з сэрца, таму так лёгка пранікалі ў нашы душы. Дзякуем за магчымасць удзелу ў чароўных місійных набажэнствах, якія нанова адкрылі нас на Божую любоў і іншага чалавека. Дзякуем за паслугу ў канфесіянале і за тое, што на працягу гэтых дзён Вы былі для нас прыкладам даручэння свайго жыцця Беззаганнай. Няхай усемагутны Бог узнагародзіць за душпастырскую паслугу і за прыгожае сведчанне сапраўднай веры. Няхай Езус Хрыстус Вас бласлаўляе, Святы Дух адорвае шчодрымі ласкамі, Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай апекі, а св. Казімір падтрымлівае ў штодзённых выкліках святарскага і місійнага жыцця.
*Вернікі з парафіі Наведвання НПМ у Тракелях*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лішко**
з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, добрых і верных людзей побач, моцнай веры, нязгаснай надзеі. Няхай міласэрны Бог бласлаўляе кожны дзень Твайго жыцця, Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі, а Святы Дух асвячае выбраны шлях, каб ён прыносіў шчодры плён.
*Цёця Марыя і яе сям’я*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**
з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны праменямі Божай міласэрнасці. Сардэчна дзякуем Вам за адданую душпастырскую працу, адкрытае на кожнага чалавека сэрца, мудрыя, павучальныя казанні і рамонт нашага касцёла, а Пану Богу – за тое, што даў нам такога святара. Шчасці Божа!
*З малітвай і павагай вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу і ўсім яго родным**
выказваем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі са смерцю самага дарагога і блізкага чалавека – мамы. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль и смутак. Няхай міласэрны Бог дасць сілы, каб перажыць цяжар страты. Вечны супакой для памерлай.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Шэйгерэвічу і ўсім яго родным**
перасылаем словы шчырага жалю ў сувязі са смерцю мамы. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Вечны супакой для памерлай.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2056; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная